# Наша Свабода

№120(207) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

2 ЛІСТАПАДА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Камуністы не пройдуць

Мінгарвыканкам забараніў Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ) праводзіць 7 лістапада шэсце і мітынг у цэнтры сталіцы. Замест заяўленых камуністамі мітынгу на плошчы Незалежнасці і шэсця па праспекце Ф.Скарыны да плошчы Перамогі ПКБ дазволілі толькі ўскласці раніцай 7 лістапада кветкі да помніка Леніну.

«Такога ніколі не было... Улада практычна адмовіла грамадзянам у іх канстытуцыйным праве», – заявіў Сяргей Калякін. Неразуменне ў камуністаў выклікае і матыў адмовы ў правядзенні акцыі. Паводле слоў Калякіна, ім было заяўлена, што «зараз не час хваляваць народ». У сувязі з гэтым, паведаміў Калякін, камуністы маюць намер звярнуцца ў суд з іскам наконт дзеянняў гарадскіх уладаў у сувязі з парушэннямі канстытуцыйных правоў грамадзян. «Мы будзем дабівацца, каб заўзятых адміністратараў усё ж прыцягнулі да адказу», – сказаў лідэр ПКБ.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Правыя Расіі і Беларусі зьбліжаюцца

Саюз правых сілаў Расіі і наша Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) рыхтуюцца на пачатку наступнага года падпісаць дамову аб супрацоўніцтве. Такі вынік аднадзённай рабочай паездкі дэлегацыі АГП у Маскву 31 кастрычніка.

Дэлегацыя АГП сустракалася з лідэрам СПС і кіраўніком фракцыі СПС у Дзяржцуме Барысам Нямцовым, Сяргеем Бондарам, які вядзе беларускі накірунак СПС, а таксама адным з лідэраў Народнай партыі старшынём камітэта па міжнародных справах Дзяржцумы Дзмітрыем Рагозіным. Анатоль Лябедзька падкрэсліў, што вынікі сустрэчы «нас задавальняюць». У часе візіту СПС і АГП стварылі сумесную расійска-беларускую рабочую групу, якая мае працаваць над дакументам «Погляд правых на беларуска-расійскія адносіны». Рабочая група «Раманчука-Мау» (менавіта яны ўзначальваюць гэтую структуру) на працягу колькіх месяцаў мусяць выпрацаваць дакумент. «Ёсць верагоднасць, што на пачатку наступнага года (умоўна скажам: першы квартал наступнага года) да нас прыедзе вялікая дэлегацыя СПС на чале з Нямцовым і Хакамадай, дзе мы падпішам пагадненне аб супрацоўніцтве паміж СПС і АГП, а таксама зробім прэзентацыю гэтага дакумента», – падкрэсліў А.Лябедзька.

Пры сустрэчы з Дз.Рагозіным гаворка таксама ішла пра супрацоўніцтва. У часе сустрэчы з адным з лідэраў вядомай французскай Народнай партыі, якая 30 кастрычніка па новым расійскім заканадаўстве прайшла перарэгістрацыю пад №1, гаворка ішла не толькі пра двухбаковыя адносіны, але і пра супрацоўніцтва ў рамках міжнародных парламенцкіх арганізацыяў, такіх як Парламенцкія асамблеі Савета Еўропы і АБСЕ. «У нас існуе адкрыты абмен думкамі, і сёння быў адзін з этапаў. Некаторыя фрагменты мы пакуль дамовіліся не абнародаваць», – так пракаментаваў Анатоль Лябедзька

# «Рэвалюцыйны» фантан



Фота Ул.ШЛАПАКА

1 лістапада на пляцы перад сталічным Камароўскім рынкам быў адкрыты фантан. Працяг тэмы на стар.2

## Сілавікі не слухаюць Лукашэнку

*Праваахоўным органам невядома, куды ў сярэдзіне 90-х гадоў знік вядомы ў Беларусі злачынны аўтарытэт па мянушцы Шчавлік.*

30 верасня падчас «круглага стала» па праблеме барацьбы з тэрарызмам, які прайшоў у Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску, адказваючы на пытанне, што стала са Шчаўлікам і іншымі аўтарытэтамі арганізаванай злачыннасці, начальнік Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС рэспублікі Міхаіл Мядзведзеў сказаў: «Ну, калі яны прадстаўнікі арганізаванай злачыннасці, што з імі можа адбыцца: у турму пасадзяць, прападзе без вестак, як у выпадку з Уладзімірам Кляшчом (Шчаўлікам) адбылося, яго лёс не ўстаноўлены, або, можа быць, яны рашэнне прымаюць – адмовіцца, напрыклад, ад злачыннай дзейнасці, паехаць куды-небудзь і жыць, як нармальныя грамадзяне». Што тычыцца лёсу канкрэтна Шчаўліка, то, паводле слоў М.Мядзведзева, «магчыма, ёсць такія версіі, ён стаў ахвярай крымінальных разборак, магчымыя і іншыя версіі, пакуль што лёс яго не ўстаноўлены». «Але я думаю, што нас усіх павінен непакоіць лёс у першую чаргу не крымінальных аўтарытэтаў, а нармальных людзей, якія па пэўных прычынах прападаюць без вестак, – зазначыў ён. – А гэтыя людзі (крымінальныя аўтарытэты. – **БелаПАН.**) – яны самі шукаюць сабе прыгодаў».

Варта зазначыць, што пытанне пра лёс Шчаўліка ўзнікла ў гэтыя дні не выпадкова. Пра гэтага чалавека, будучы 23 кастрычніка ў Гомелі, успомніў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Ён гаварыў аб уплыве улады на крымінальнае асяроддзе: «...я сапраўды, у Мінску, у Гомелі меней, праз пэўных жулікаў паведаміў пяць гадоў таму: не дай Бог толькі недзе вы створыце сітуацыю крымінальную, я вам паадрываю ўсім галовы. А мы ж ведаем, колькі іх і хто яны, гэтых злодзеяў у законе. Уся міліцыя ведае. Што, мы не ведаем іх? Ведаем. Я вам нават больш скажу. Я, калі стаў прэзідэнтам, запатрабаваў ад міністра ўнутраных спраў на другім годзе, каб прынёс спісы і паклаў на стол – усіх злачынных і крымінальных элементаў у Мінску. А потым пайшлі па Гомелю, па абласцях, ну, яны і склалі такі каталог. Дагэтуль у сейфе ляжыць. Мы ведаем усіх. І яны ведаюць, што мы іх ведаем. І не дай Бог ён паварушыцца... а ён не дурань. Калі ўлада пракралася, калі ўлада крымінальная, як ён, нічым яго не ўтрымаеш, так жа?

*Заканчэнне на стар.3*

## Няма ўстойлівых тэрарыстычных груп

У Беларусі ўдалося пазбегнуць фарміравання ўмоў, пры якіх магчымыя масавыя праяўленні тэрарызму і функцыянавання ўстойлівых тэрарыстычных груп. Пра гэта падчас «круглага стала» на тэму «Аб мерах бяспекі, прадпрымаемых у Рэспубліцы Беларусь у сувязі з пагрозай міжнароднага тэрарызму», заявіў намеснік дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Міхаіл Удовікаў.

Разам з тым, як зазначыў М.Удовікаў, «у цяперашніх абставінах неабходна правесці рэвізію стану спраў у гэтай галіне ў мэтах выкарэнення перадумоў нават для адзінкавых злачынстваў, кваліфікуемых як тэрарыстычны акт». Паводле яго звестак, з 1996 года праваахоўнымі органамі краіны было ўзбуджана 38 крымінальных спраў па прыкметах асабліва небяспечных гвалтоўных злачынстваў з прымяненнем выбуховых прыстасаванняў; непасрэдна па фактах учынення тэрарыстычных актаў за гэты перыяд былі ўзбуджаны 4 крымінальныя справы.

*Заканчэнне на стар.3*

## Наступны нумар газеты ў сувязі са святамі выйдзе ў наступную пятніцу, 9 лістапада

## Умовы абвяшчэння надзвычайнага становішча

Законапраект «Аб надзвычайным становішчы» прыняты ў першым чытанні Палатай прадстаўнікоў. Паводле яго, надзвычайнае становішча ў нашай краіне можа быць уведзенае ў выпадку беспарадкаў, якія суправаджаюцца гвалтам з боку групы асобаў і арганізацыяў, і якія пагражаюць жыццю і здароўю людзей, тэрытарыяльнай цэласнасці і існаванню дзяржавы, альбо ў выпадку надзвычайнай сітуацыі прыроднага і тэхнагеннага характару.

## Званіць за мяжу стала яшчэ даражэй

31 кастрычніка ў Беларусі на 3,8-4,3% узраслі тарыфы на міжнародныя тэлефонныя размовы.

Зараз хвіліна зносінаў з Украінай стала каштаваць 281 рубель, Расіяй – 341, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй – 416, Чэхіяй – 375, Германіяй, Францыяй, Балгарыяй – 396, Вялікабрытаніяй – 486, ЗША – 1.224, Ізраілем – 1.434, Аўстраліяй – 946 рублёў. Сама дарага абыдуцца размовы з Йеменам, Ліванам, Пакістанам і В'етнамам – 2.862 рублі за хвіліну. З 21 да 9 гадзінаў па будных і кругласутачна ў выхадныя і святочныя дні дзейнічаюць ільготныя тарыфы.

## Парашковыя жартаўнікі

На 30 кастрычніка ў Беларусі зарэгістравана ўжо 28 выпадкаў атрымання грамадзянамі лістоў з белым парашком. Першы такі выпадак быў зарэгістраваны 16 кастрычніка. Устаноўленыя асобы чатырох жартаўнікоў. Іх дзеянні падпадаюць пад артыкул «Пагроза ўчыненнем акта тэрарызму».

## «Магілёў-Мінск» стаў фірмовым

Хуткасны цягнік «Магілёў – Мінск» займе статус фірмовага. Хуткасны 123-і цягнік ходзіць з Магілёва ў Мінск чатыры разы на тыдзень. Цяпер тут будуць вагон-буфет і агульны вагон з мяккімі сядзеннямі. У сувязі з гэтым узрасце і кошт білетаў. Яны падаражэюць у сярэднім на 20%.

**УШАНАВАННІ**



Пераемнасць: Кірыла Тураўскі і рэктар БДУ Аляксандр Казулін

## Заключэнне прэзідэнцкім выбарам

*Місія Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ па абмежаванаму назіранню за выбарамі прэзідэнта Беларусі абнародавала сваю заключную справаздачу – дакумент на 38 старонках.*

Як і ў папярэдняй справаздачы, місія БДІПЧ АБСЕ пацвярджае тры галоўныя высновы:

– «Прэзідэнцкія выбары 2001 года не адпавядалі абавязацельствам па АБСЕ адносна дэмакратычнасці выбараў, сфармуляваных у Капенгагенскім дакуменце 1990 года, і стандартам Савета Еўропы»;

– «Місія вітае і прызнае з'яўленне плюралістычнага грамадзянскага супольніцтва – падмурка развіцця дэмакратычных палітычных структур, якія прадстаўляюць усе слаі насельніцтва»;

– «Ізаляцыя краіны супярэчыць інтарэсам беларускага народа і не садзейнічае развіццю дэмакратычных працэсаў».

Сярод рэкамендацый у дакуменце, напрыклад, ёсць такія: «прэзідэнцкія ўказы не павінны выкарыстоўвацца для рэгулявання рамачных умоў выбараў»; «Выбарчы кодэкс і Закон аб ЦВК павінны быць зменены, каб забяспечыць шматпартыйнае, плюралістычнае прадстаўніцтва ў выбарчых камісіях усіх узроўняў, а не проста права вылучэння»; «варта ўключыць у Выбарчы кодэкс палажэнні аб роўным доступе кандыдатаў ці палітычных партый да ўсіх звязаных з выбарчай кампаніяй трансляцый, уключаючы выпускі навін і іншыя інфармацыйныя праграмы» і гэтак далей.

**Уладзімір ГЛОД**

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1520**

# Дзень Памяці, крыжы смутку



Фота Ул. ШЛАПАКА

## Памяць пра навукоўцаў

30 кастрычніка ва ўрочышчы Курапаты адбылося адкрыццё крыжа ў памяць пра беларускіх археолагаў Сяргея Дубінскага, Аляксандра Каваленю і Аляксандра Ляўданскага, расстраляных тут 27 жніўня 1937 года.

Гэты дубовы мемарыяльны знак выраблены вядомымі беларускімі рэзчыкамі па дрэве па ўзору крыжа-абярэгі. Ён зроблены на сродкі археолагаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры.

На цырымоніі адкрыцця мемарыяльнага крыжа прысутнічалі прадстаўнікі дэмакратычных партый, рухаў і творчай інтэлігенцыі, а таксама грамадскай ініцыятывы «За ратаванне мемарыяла Курапаты». Памятны знак уставіў і асвяціў кіраўнік святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы на радзіме айцец Ян Спасюк.

Найстарэйшы беларускі археолаг доктар гісторыі Георгій Штыхаў зазначыў, што тры вучоныя, у гонар якіх установлены крыж, былі пакараны па загаду з Масквы. «Жыццё гэтых людзей, якія маліліся на савецкую ўладу, было ёй і загублена», – падкрэсліў Штыхаў. Ён заклікаў прысутных захаваць Курапаты і не дапусціць паўтарэння ў Беларусі падобнай трагедыі.

## Святыя недатыкальныя крыжы

Асновай мемарыяла ў Курапатах павінны стаць памятныя крыжы, устаноўленыя грамадзянамі на ўрочышчы. Пра гэта гаворыцца ў заяве незарэгістраванага маладзёжнага аб'яднання Малады Фронт, распаўсюджанай 30 кастрычніка з нагоды Міжнароднага дня памяці ахвяр палітычных рэпрэсій.

У заяве паведамляецца, што кругласутачная вахта памяці па абароне Курапатаў ад разбурэння цягнецца ўжо 40 дзён. Маладафронтаўцы і прадстаўнікі іншых грамадскіх арганізацый, якія жывуць у палатачным лагеры, устанаўліваюць новыя крыжы, парадкуюць тэрыторыю Курапатаў, збіраюць подпісы за будаўніцтва аб'язной дарогі сярод жыхароў мікрараёна Зялёны Луг-6, які прымыкае да ўрочышча.

«Тым часам улады, напужаныя ўздымам нацыянальнага супраціўлення і абурэннем грамадства, паводзяць сябе нервова і разгублена», – адзначаецца ў заяве. Апошнімі днямі да мемарыяла сцягнута будаўнічая тэхніка, штодзённа ў лагер наведваюцца супрацоўнікі міліцыі. З'яўляюцца паведамленні аб тым, што пасля Дня памяці продкаў «Дзяды» (3-4 лістапада) «улады будуць знасіць лагер абаронцаў і знішчаць крыжы».

Валанцёры збіраюць абаранцы крыжы ў Курапатах «да апошняга». Дарога не павінна разбураць нацыянальны некропаль, падкрэсліваецца ў заяве. Там гаворыцца, што «крыжы, устаноўленыя на месцы масавых пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій, – гэта і ёсць аснова грамадскага мемарыяла «Курапаты»... Крыжы, ужо ўстаноўленыя ў Курапатах, – недатыкальныя!».

## Знак на Трышынскіх могілках

У Дзень памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій многія жыхары Брэста прыйшлі на Трышынскія могілкі, дзе ўстаноўлены памятны знак, прысвечаны рэпрэсіраваным. Сярод прыйшоўшых сюды былі і тыя, хто непасрэдна зведаў рэпрэсіі.

Як зазначыў Данііл Нікітчык – старшыня Брэсцкай абласной асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, якая налічвае каля 200 чалавек, стаўленне ўладаў да рэпрэсіраваных мяняецца ў горшы бок. Так, паводле яго слоў, на нязнаны тэрмін прыпынена дзеянне льготаў для дадзенай катэгорыі грамадзян, адсутнічае дзейсная падтрымка членаў асацыяцыі на мясцовым узроўні. Дагэтуль вязні сталінскага рэжыму з крыўдай успамінаюць гісторыю чатырохгадовай даўніны, калі гуманітарную дапамогу з Германіі, прызначаную для асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, брэсцкія ўлады размеркавалі па ўласнаму меркаванню.

## Мітынг жалобы на месцы пакутаў

Група актывістаў гомельскай арганізацыі Маладога Фронту маршам пераадолела два кіламетры па чарнігаўскай трасе, на 9-м кіламетры якой прайшоў жалобны мітынг з нагоды Дня памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій. У акцыі ўзялі ўдзел і людзі старэйшага пакалення, члены гомельскай гарадской арганізацыі ахвяраў палітычных рэпрэсій.

«9-ы кіламетр» – месца, дзе ў перыяд з 1919 па 1940 гады ажыццяўляліся расстрэлы і пахаванні гэтак званых «ворагаў народа». Тут няма магіл, а ў памяць пра бязвінна забітых стаіць крыж. Але сёння і гэтаму сімвалу пагражае небяспека: у непасрэднай блізкасці ад памятнага знака ідзе будаўніцтва адстойніка сцёкавых вод.

БелаПАН

# Інтэлігенцыя павінна трывожыць грамадства

«Беларуская інтэлігенцыя павіна неяк заяўляць пра сябе, смялей гаварыць пра тое, што трывожыць грамадства», – лічыць народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Такое меркаванне ён выказаў 30 кастрычніка на сустрэчы з чытачамі ў Гомелі.

На працягу двухгадзіннай гутаркі Ніл Гілевіч, адказваючы на пытанні прысутных, неадназоразва падкрэсліваў: ён – не палітык, ён – паэт. Тым не меней, Ніл Гілевіч прыгадаў эпізод, як ён выступаў супраць зацвярджэння Вярхоўным Саветам Беларусі 12-га склікання інстытута прэзідэнцтва. «Яшчэ тады я сказаў, што прыйдзе дзядзька з палкай», – успомніў Ніл Гілевіч. Паводле яго слоў, праз два гады гэтыя яго словы працытавала адна з газет ЗША з каментарыямі пра тое, што Ніл Гілевіч «як у ваду глядзеў».

Другой «палітычнай тэмай» на сустрэчы ў Гомелі народны паэт Беларусі акрэсліў ганенні на беларускую мову. Ён лічыць, што прымяняльна да Беларусі нельга гаварыць аб білінгвізме, паколькі тут няма раўнапраўнага існавання рускай і беларускай моў. Пацвярджэннем таму, зазначыў Гілевіч, можа служыць нават школьная праграма, дзе рускай мове аддадзена ў паўтара раза больш вучэбнага часу.

Ніл Гілевіч пацвердзіў інфармацыю пра тое, што самаадчуванне народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, які зараз жыве за мяжой, пакідае жадаць лепшага. Як зазначыў Гілевіч, бяда не ў тым, што Быкаву давялося паехаць з Беларусі, а ў тым, што наўрад ці ён зможа сюды вярнуцца.

Добрыя словы з вуснаў народнага паэта прагучалі на адрас Зянона Пазьняка, які таксама жыве за мяжой. Ніл Гілевіч адазваўся пра яго як пра адукаванага, сумленнага і шчырага чалавека, які з-за тактычных памылак у сваёй дзейнасці стаў «трагічнай асобай».

Ірына ШАНЦАВА

# У Полацку — «Званы Сафіі»

У Сафійскім саборы Полацка (Віцебская вобласць) з 28 кастрычніка па 9 снежня праходзіць VI міжнародны фестываль арганнай музыкі «Званы Сафіі». Як паведаміў БелаПАН галоўны спецыяліст аддзела музычных устаноў і цыркаў міністэрства культуры Беларусі Уладзімір Насеня, гэтая культурная акцыя прысвечана памяці нямецкага кампазітара Ёзефа Райнберга, стагоддзе з дня смерці якога адзначае сусветная грамадскасць.

Творы Райнберга гучалі ў першы фестывальны дзень у выкананні полацкай арганісткі Ксеніі Пагарэлай. Сачыненні для двух арганаў яшчэ аднаго нямецкага аўтара – Франца Лахнера – Ксенія Пагарэлая выканала разам з навучэнкай Наваполацкага музычнага вучылішча Юліяй Садыкавай. Гэтая юная піяністка з'яўляецца стыпендыятам спецыяльнага фонду прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, лаўрэатам міжнароднага конкурсу арганістаў «Полацк – Гатчына». Сваё мастацтва прадставіў у Полацку і выдатны віяланчэліст з Францыі Ален Меньё.

У прагаме фестывалю – яшчэ пяць канцэртаў, якія пройдуць 11, 18 і 25 лістапада, а таксама 2 і 9 снежня. Аматары музыкі пачуюць заходнееўрапейскую класіку, папулярныя мелодыі і творы беларускіх кампазітараў XVIII-XX стагоддзяў. З полацкай публікай сустрэнуцца вядомыя арганісты Крыстаф Хаўзер (Германія), Ёш ван Сон (Галандыя), Даля Ятаўтайтэ (Літва), а таксама выканаўцы з Мінска Кацяryна Кафанава і Канстанцін Шароў.

Марат ГАРАВЫ

# Дом, где продавали гексоген, стоит на большой Лубянке

## Как учитывается взрывчатка

Иногда силовые ведомства говорят правду. Российские спецслужбы действительно знают ВСЕ про московские взрывы 1999 года.

Цели, исполнители и заказчиков терактов можно отследить по происхождению взрывчатки. Оборот взрывчатых веществ в России находится под жестким государственным контролем. Контрабандой сотню килограмм гексогена через границу не провезешь. Наладить его изготовление в горном ауле из подручных материалов невозможно технически. Для обеспечения крупных террористических актов необходима своя сеть снабжения. Проще говоря, перед тем как что-нибудь взорвать, нужно обзавестись партией взрывчатки промышленного масштаба.

По идее, тайно «выписать» пару тонн взрывчатки не может никто. «Спрятать» партию гексогена в обход существующих правил практически невозможно. На основании специального постановления российского правительства все сделки с взрывчатыми веществами проходят через АО «Нитро-взрыв» и тщательно учитываются.

Но! Есть возможность «провести» любую партию взрывчатки под грифом «сырье для научных исследований».

... Лубянка — это не только ФСБ. Некоторые здания лубянского комплекса занимают службы Министерства внутренних дел. В одном из них расположился непримечный научно-исследовательский институт Министерства образования под странным для учителей названием «Росконверсвзрывцентр». Создавалось это учреждение по инициативе тогдашних руководителей образования Кинелева и Тихонова в период всеобщего увлечения идеей конверсии огромных военных запасов Советского Союза. Понятно, что уничтожение просроченных боеприпасов — дело накладное. Гораздо выгоднее делать из них промышленную взрывчатку и другие нужные в народном хозяйстве вещи. Правда, сначала надо было разработать технологию утилизации каждого конкретного типа взрывчатого вещества. Военные такими знаниями не располагали. Зато гражданские научно-исследовательские институты имели к тому времени многолетние наработки в области химических технологий. Так что новый центр утилизации боеприпасов приписали именно к Министерству образования. Тогда это казалось вполне логичным.

## Домик на Лубянке

Были, правда, в статусе «Росконверсвзрывцентра» некоторые непонятные моменты. По своему первому адресу, на Пионерской улице, институт не прижился. Здание отдали Интерполу. Зато выручил ХОЗУ МВД, предоставив взрывникам домик на Большой Лубянке. Да еще для обеспечения широкомасштабной народно-хозяйственной деятельности институт бесплатно получил в свое распоряжение девять телефонных номеров милицейского коммутатора. Причем денег обычно прижимистое хозяйственное управление принципиально не брало. Зато некоторые сотрудники ХОЗУ состояли в «Росконверсвзрывцентре» на денежном довольствии.

Министерство образования к работе собственного института имело весьма косвенное отношение. Проконтролировать бурную деятельность директора «Росконверсвзрывцентра» Щукина министерские чиновники не могли по определению. Дело в том, что в соответствии со своим назначением институт заключал договоры на утилизацию боеприпасов с воинскими частями. А проверять военные контракты гражданский министр просто не имеет права. По той же причине не вмешивалось в работу гражданского института Министерство обороны. А МВД, под крылом которого «Росконверсвзрывцентр» обезвреживал списанные боеприпасы, по каким-то причинам на некоторые «шалости» его директора просто не обращало внимания.

Поразительно, но по некоторым документам тонны взрывчатки отправлялись непосредственно в столицу. На улицу Большая Лубянка, дом 18, строение 3. Прямо под окна Управления ФСБ по Москве и Московской области.

Куда шли тонны взрывчатых веществ на самом деле, знал только один человек — директор института Щукин.

Вообще-то торговля взрывчатыми веществами у нас категорически запрещена. Поэтому по документам «Росконверсвзрывцентра» порох, тротиловые баллистные шашки и гексоген числились невинной научно-технической продукцией. А продавать результат собственных научных изысканий может каждый. Тем более если поставить в графе «назначение» формулировку: «для дальнейших испытаний». Смертельно опасная взрывчатка попросту исчезала из поля зрения соответствующих органов. Тем более что часто для удобства перевозки опасный груз перемаркировывался. Под видом обезвреженного артиллерийского пороха везли гораздо более опасные вещества. При этом сама транспортировка проводилась без лишнего шума. Два вагона с взрывчаткой, по краям — буферные. Или автофургоны. Продукция «Росконверсвзрывцентра» шла через всю страну. По одним дорогам с рейсовыми автобусами и переполненными электричками.



1. Управление ФСБ по Москве и Московской области
2. НИИ Министерства образования "Росконверсвзрывцентр"
3. Кабинет директора Щукина

Взрывчатку отгружали тоннами. Научно-исследовательский институт Министерства образования «Росконверсвзрывцентр» работал как оптовая торговая компания. Но вот специфика торговли граничила с безумием. Только по официальным договорам директор Щукин обеспечивал «научной» продукцией своего института большую часть горно-обогатительных предприятий России и Белоруссии. С 1998 по 2000 год Щукин заключил 311 договоров, из которых большая часть была связана с поставкой 23 161 тонны взрывчатых веществ. Доход от торговли составил более 90 миллионов рублей. Налогов с прибылей Щукин не платил...

Деньги, вырученные за тротил и порох, отмывали по традиционным для российского капитализма схемам. За 1998 год, например, только белорусский РУПП «Гранит» получил от «Росконверсвзрывцентра» более 250 тонн взрывчатых веществ. Взамен горняки отгружали гранитную щебенку. Ее директор взрывоопасного НИИ Щукин отправлял литовским фирмам «Паневежис келяй» и «Гатвю Статиба». В деле участвовали офшорный «Селениум» и американский «HUKO». Понятно, что, пройдя длинную цепочку посредников, деньги за щебень в институт не возвращались.

Бизнес развивался стремительно. Взрывы московских домов в 1999 году на торговлю взрывчаткой не повлияли. Во всяком случае, после трагедии на улице Гурьянова число контрактов на поставку взрывчатых веществ не уменьшилось.

Торговая деятельность директора Щукина прекратилась только в мае 2000 года, после того как делами подведомственного института заинтересовался министр образования России Владимир Филиппов.. Главным результатом проверки стало увольнение зарвавшегося директора. Сразу после отставки Щукина незаконная торговля взрывчаткой прекратилась. Вскоре выяснилось, что увольнение директора прекратило поставку куда более опасной взрывчатки — вещества «А-IX-1».

Павел ВОЛОШИН
Novaya gazeta.ru

